«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info,
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 35 (4595)

14 мая 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

## Без послов Франции и США

Вчера Чрезвычайные и Полномочные Послы Ирака, Никарагуа, России, Руанды, Саудовской Аравии и Сьерра-Леоне вручили верительные грамоты Александру Лукашенко.

Послы Франции и Соединенных Штатов Америки не были замечены на вручении верительных грамот. Это говорит о том, что они не получили соответствующего указания от своих президентов.

ХТО ЁСЦЬ ХТО

Ігар ЛЯШЧЭНЯ, экс-амбасадар Рэспублікі Беларусь у Славакіі:

# «Мой сэнс свабоды – быць у Беларусі і дзейнічаць адкрыта»

**Дасье**

Ігар Ляшчэня да нядаўняга часу быў Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Славаччыне (раней – у Егіпце, Ізраілі). Дыпламатычны стаж –30 гадоў. Мае сям'ю і траіх дзяцей.

Стаў першым беларускім паслом, хто 15 жніўня публічна заявіў пра салідарнасць з мірнымі пратэстоўцамі. І потым вярнуўся ў Беларусь.

*«Натуральна, я хваляваўся, калі рабіў тую заяву, бо па жыцці вельмі асцярожны чалавек. Калі рызыкую і займаю прынцыповую пазіцыю, усё ўзважваю. У маім разуменні рызыка – гэта ўсвядомленая небяспека, якой не пазбегнуць, калі ты разумееш, што інакш нельга. Усё астатняе – блазенства. Выкладваючы заяву ў інтэрнэт, я выразна разумеў, што іду ў нікуды і вяду ў нікуды маю сям'ю. Але інакш паступіць не мог»,* – успамінае Ігар Ляшчэня.

Сёння Ігар Ляшчэня – старшыня грамадзянскай ініцыятывы «СХОД» – лічбавай дыялогавай платформы народных прадстаўнікоў, якая мае на мэце, сярод іншага, садзейнічаць вырашэнню палітычнага крызісу ў краіне праз дыялог.




### «Гэта не было спробай ускочыць у апошні вагон новай дэмакратычнай улады»

**– Што вымусіла вас адкрыта выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю?**

– Яшчэ 10 жніўня я не ведаў, што зраблю сваю заяву. На маім выбарчым участку ў амбасадзе Славаччыны было сумленнае галасаванне, і я сумленна паведаміў у Мінск, што Лукашэнка атрымаў 12 працэнтаў галасоў, а Ціханоўская – 78 працэнтаў. Я знаходзіўся ў гармоніі з сабой, лічыў, што гэтага дастаткова. Але далейшыя падзеі не пакінулі выбару. Самы галоўны трыгер – відэа з разгонам і збіццём людзей. Я эмацыйны чалавек, але пасол не можа паддавацца эмоцыям. Таму я правяраў факты: спачатку праз афіцыйныя тлумачэнні – непераканаўча, потым праз знаёмых. І выразна ўбачыў, што на пратэсты выйшлі не прафесійныя рэвалюцыянеры, не наркаманы, прастытуткі і беспрацоўныя, а прыстойныя людзі розных узростаў і палітычных поглядаў.

Мая заява аб падтрымцы мірных пратэстаў не была спробай ускочыць у апошні вагон новай дэмакратычнай улады. Бо ўжо тады, у адрозненне ад многіх беларусаў, якія былі ў эйфарыі, у мяне было дакладнае разуменне, што я не вярнуся ў дэмакратычную Беларусь, што ўлада тут не зменіцца ні праз тыдзень, ні праз месяц.

Чаму так мала паслоў паступілі гэтак жа? Думаю, як ні цынічна гучыць, дзеля звычайнага пачуцця самазахавання. Калегі ўсё разумеюць і прыдумалі шмат самаапраўдалак: ад макіявеліянскіх трактовак наконт дыпламатычнага доўгу да элементарнага «на што жыць?».

Дыпламаты ў цэлым паднявольныя людзі. Ёсць меркаванне, што сутнасць працы амбасадара – сваім майстэрствам прымусіць другі бок бачыць плюсы пазіцыі краіны, якую ён прадстаўляе, і не заўважаць мінусы. Я за гады працы вывеў сваю формулу дыпламаты: добры амбасадар у адносінах паміж краінамі павінен знайсці вобласці ўзаемнага цяпла, разумення і выгады і, абапіраючыся на гэты пункт апоры, пашыраць супрацоўніцтва там, дзе яно здавалася немагчымым.

Але калі казаць пра 9–12 жніўня... Пасля нядзельных падзей толькі ў пятніцу МЗС выдала нейкую інструктыўную паперу, якая мала каго пераконвала. Вопыту для данясення афіцыйнай пазіцыі мне дакладна хапіла б... Але вось аб наяўнасці ў гэтай арыенціроўцы апорнага пункту для збліжэння пазіцый апанентаў гаварыць не даводзілася. Там ішла адкрытая хлусня. Памятаецца, што прадстаўнікоў Еўрасаюза прапаноўвалі пераконваць у зверствах пратэстоўцаў над праваахоўнікамі на падставе 2–4 фатаграфій амапаўцаў з залепленымі насамі. Вы памятаеце, як яны былі экіпіраваны? Праз гэтыя панцыры пратэстоўцы наўрад ці маглі зламаць ім насы. І ў мяне вялікае пытанне, як мае калегі ўсё гэта данасілі і тлумачылі.

Ёсць і глыбейшыя прычыны. Сітуацыя «вярхі не могуць, нізы не хочуць» да жніўня была сфарміравана далёка не цалкам. Той жа рабочы БЕЛАЗа выйшаў на пратэст, бо накіпела: яго абразіла сітуацыя з кавідам, вынікамі выбараў, АМАП збіў яго сябра, які вяртаўся з начной змены. Гэта ўсё накіпела і выплюхнулася.

А потым пратэст пачалі душыць. І гэты рабочы сеў дома, выпіў гарбаты і зразумеў, што ўсё астатняе яго больш-менш задавальняе. Так, узровень жыцця падае, але не вельмі. І так думалі не толькі працоўныя, але і бізнесмены, і чыноўнікі.

Таму я не стамляўся паўтараць: лозунга «Сыходзь!» недастаткова, на ім мы доўга не праедзем. У гэтым вакууме (калі сітуацыя непрымальная, але куды ісці, толкам не сказалі) прачынаецца досвед сярэдняга разважлівага беларуса, па продках якога так часта і бязлітасна з захаду на ўсход і назад пракатвалася кола гісторыі.

Так, на думку тых жа славакаў ці чэхаў, такая хваля пратэсту, здавалася б, павінна была прывесці да перамогі. Але ў нашай сітуацыі гэтага было недастаткова. Не было напрамку руху. І, як мне здаецца, лідары пратэсту блыталі лабавую просталінейную публічную агітацыю з працай з мэтавымі аўдыторыямі.

Менавіта таму ў кастрычніку, калі ў вусны Святланы Ціханоўскай уклалі заклік да агульнанацыянальнага страйку і нашы палітэмігранты прасілі мяне заклікаць дыпламатаў сыходзіць з МЗС, я адмовіўся, бо мне няма чаго было ім прапанаваць. У Вільнюсе і Варшаве адмовіліся заклікаць чыноўнікаў звальняцца толькі сёлета, пры прыняцці сваіх новых стратэгій.

Што да вышэйшага кіраўніцтва МЗС, то пытанне журналістаў «Чаму Макей не грукнуў дзвярыма і не сышоў?» вельмі наіўнае. Шукаць дэмакратаў на верхніх паверхах уладнай эліты бессэнсоўна – іх там няма. Там цікавасць да дэмакратыі выяўляецца толькі ў прыемнасці спажываць выгоды, створаныя дэмакратычным Захадам.

Уладзімір Макей – адзін з архітэктараў гэтай сістэмы, ужо 21 год ён адзін з самых davераных памочнікаў Лукашэнкі. Мне наогул здаецца, што мой былы кіраўнік павінен цаніць далікатнае стаўленне апазіцыйных СМІ да сваёй персоны ў жніўні мінулага года. Некаторыя ягоныя словы гучалі балюча для тых, па кім прайшоўся каток рэпрэсій. Напрыклад, памятаеце, як ён казаў, што гатовы перагрызці горла за нейкую SMS яго сям'і, якая добра забяспечана і знаходзіцца пад надзейнай абаронай, і забыўся пры гэтым пра бацькоў, з чыіх дзяцей зрабілі крывавае месіва.

### «Страціў ранг, але захаваў добрае імя»

**– Што вы страцілі за сваю актыўнасць?**

– У паняццях цяперашняй улады і абывацеляў, напэўна, я страціў шмат – сучаснасць і ясную будучыню. Я сышоў з сістэмы. Мяне пазбавілі рангу. Каб утрымаць цяперашніх паслоў, быў нават прыняты ўказ прэзідэнта пазбаўляць такіх, як я, былых дыпламатаў спецыяльнай дапамогі пры выхадзе на пенсію. Улада настолькі аптымістычная, што лічыць, быццам праз 12 гадоў, калі падыдзе мой пенсіённы тэрмін, яны ўсё яшчэ будуць сядзець на сваіх месцах і нацешацца відовішчам, як я буду атрымліваць сваё пенсіённае пасведчанне.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

СТАЛО ИЗВЕСТНО

# Марии Колесниковой предъявили окончательное обвинение

Члену Координационного совета и штаба Бабарико **Марии Колесниковой** предъявлено окончательное обвинение. Об этом *TUT.BY* сообщили в штабе Виктора Бабарико.

Марию Колесникову обвиняют по трем статьям Уголовного кодекса: ч.3 статьи 361 (призывы к действиям против нацбезопасности), ч.1 ст.357 (заговор с целью захвата государственной власти неконституционным путем), ч.1 ст.361-1 (создание экстремистского формирования и руководство им). Ей грозит до 12 лет тюрьмы.

Сейчас Колесникова вместе с защитниками знакомится с материалами дела.

На странице Марии Колесниковой в Facebook накануне появилась выдержка из ее письма, где она говорит, что не жалеет о принятом год назад решении присоединиться к команде Виктора Бабарико, который именно 12 мая объявил, что идет в президенты.

*«Год назад я приняла самое важное решение в моей жизни. Понимая все риски и высокую вероятность, что я окажусь там, где я сейчас, я с радостью стала частью команды Виктора Дмитриевича. Ни на секунду не жалею о своем решении и сейчас.*



*Этот год оказался самым сложным и самым счастливым в моей жизни. Понимаю, как странно это звучит от человека из тюрьмы. Но обрела я намного больше, чем потеряла: уникальный опыт, драйв невероятный, массу новых знаний и умений (например, раньше я никогда не вела стримы, не писала 170 писем в месяц, не бегала каждый день и не читала так много хороших книг). Я обрела внутреннюю свободу и счастье оставаться собой в любой ситуации. Но самое главное чудо – это невероятные белорусы: Ваша поддержка и любовь придают колоссальную силу! Я благодарна Виктору Дмитриевичу, Эдику [Бабарико], Максиму [Знаку], Илье [Салею] и всей команде – вы стали мне как семья, и я счастлива пройти этот путь вместе! Огромное спасибо за этот год моей сестре, папе, родным и близким за поддержку, стойкость и безмерную любовь, которая и есть моя защита! Вас очень люблю и обожаю!»* – написала Колесникова.

Напомним: на днях стало известно: еще одному члену президиума Координационного совета и адвокату Колесниковой Максиму Знаку предъявили окончательное обвинение. Знака обвиняют по тем же трем статьям.

SOS!

# Россия стремительно захватывает белорусский рынок

*Дыра во внешней торговле белорусов с РФ растет как на дрожжах. Сотрудничество со странами вне СНГ, наоборот, быстро сжимается.*

Статистика по внешней торговле товарами выходит с задержкой по отношению к данным по производству. Сегодня самая актуальная информация по экспорту и импорту относится к периоду январь–март 2021 года.

Как мы и предсказывали в предыдущих публикациях, в 2021 году доля России во внешней торговле постоянно увеличивается. Это происходит из-за резкого подъема импорта из соседней страны.

За 1-й квартал экспорт товаров Беларуси в Россию увеличился на 8,3%, а вот импорт из РФ подскочил аж на 32,7%. Из-за опережающего роста импорта кратно выросло отрицательное сальдо внешней торговли. Если в 2020 году оно составляло минус 447 млн USD, то за 3 месяца 2021-го опустилось до минус 1,373 млрд USD.

Значительный рост импорта привел к увеличению дисбалансов во внешней торговле с Россией. За январь–март 2020 года на каждые 100 USD импорта из РФ приходилось 87,7 USD экспорта в Россию, а в январе–марте 2021-го – только 71,5 USD.

Дисбаланс в торговле с РФ последовательно ухудшается в течение 2021 года. В январе на 100 USD импорта из России приходилось 74,5 USD белорусского экспорта, в феврале – 71,9 USD, в марте – 69,1 USD.

Ничуть не лучше абсолютные показатели с темпами роста импорта. За январь импорт из России составил 1,352 млрд USD, за февраль – 1,555 млрд USD, за март – 1,914 млрд USD. Темпы прироста импорта тоже идут по нарастающей: январь – +23,2%, февраль – +25,8%, март – +47,4%.

В результате сальдо торговли с Россией ухудшается каждый месяц. В январе это было минус 345 млн USD, в феврале – минус 437 млн USD, в марте – минус 591 млн USD. Для сравнения: в марте 2020 года негативное сальдо по РФ было равно минус 161 млн USD.

Доля России в товарной торговле Беларуси выросла с 47,7% по итогам 1-го квартала 2020-го до 48,7% в 1-м квартале 2021-го. А вот товарные потоки с регионом вне СНГ обмелели: доля в 2020-м составила 41,5%, а в 2021-м откатилась на 40,5%. Заметно, что значимость РФ увеличилась ровно на столько процентных пунктов, на сколько упала доля стран вне СНГ.

### С чем связаны все эти события?

Во-первых, это эффект от подорожания нефти. По данным Минфина РФ, средняя цена нефти Urals в 1-м квартале выросла к 2020 году на 24,1%. Также в 2021 году существенно увеличились поставки российской нефти в физическом выражении.

Во-вторых, по данным о розничном товарообороте видно, что импорт вытесняет с полок белорусские товары. В силу величины потоков товары из РБ проигрывают конкурентную борьбу прежде всего дешевому и качественному импорту из России.

*(banki24.by)*

КАДРОПЛЯС

# Смотрите, кто пришел в Большой театр…

*Следующим его генеральным директором, не исключено, будет назначен руководитель сельской художественной самодеятельности*

В Большом театре опять новый генеральный директор – Вячеслав ГАРБУЗОВ, чиновник областного масштаба со скромной, но твердой поступью преданного управленца. А что вы хотите? Пригласить в Минск интенданта Зальцбургского фестиваля? Хотя почему бы и нет – почему бы не попробовать поискать претендентов на такой значимый пост среди известных импрессарио Европы? Но, как говорится, у нас другие ориентиры.

У нас чуть ли не каждый новый министр культуры назначает нового директора в Большой. Да, собственно, и сами министры меняются, как перчатки: за последние лет десять с небольшим в этом ведомстве было четыре новых чиновника. И директоров в театре за это время тоже четыре. И каждый новый генеральный Большого, если посмотреть, – это как отражение Беларуси, ее конкретного политического момента. Сейчас нужен дисциплинированный идеолог. И назначается Вячеслав Гарбузов. Возможно, что следующим будет вообще директор из районного дома культуры или из сельской художественной самодеятельности. А что удивительного – пока явно, что тенденция идет по нисходящей.

Но были когда-то и другие периоды в истории театра и страны.

В начале 2000-х тысячных – возрождение. Не случайно Александр Лукашенко первым среди всех театров страны стал ремонтировать именно Большой: он тогда сам чувствовал себя созидателем. Вспомним, что огромный ремонт и реконструкцию музыкального гиганта на своих плечах вынес народный артист, выдающийся хореограф **Валентин Елизарьев**. Именно он был директором Большого театра в те годы. Именно его безупречная фигура как нельзя лучше соответствовала тому моменту белорусской истории.

Но настало время фанфар, время вышколенных мундиров, и пост директора Большого достался **Владимиру Гридюшко**, человеку с крепким министерским прошлым. Да, у него не было специального образования, кроме музыкальной школы по классу баяна, но Гридюшко, надо сказать, был неплохим менеджером. Имел экономическое образование. И еще он любил наш Большой театр, это все-таки чувствовалось…

Его сменил тишайший **Александр Петрович**, бывший директор вечно «лежачего» Музыкального театра. Как оказалось ненадолго, он был фигурой переходной, тоже какой-то «лежачей». На голову



Петровича свалилось все: и локдаун в связи с пандемией, и бессланные, скандальные увольнения лучших музыкантов и солистов театра. В общем-то, черная метка на всю биографию бывшего директора. Но за покорность Александру Евгеньевичу сейчас нашли место в одном из творческих коллективов Белгосфилармонии. Все-таки не на пенсию.

А теперь на должность генерального директора Большого театра из кадровых кладовых извлекли персону Вячеслава Гарбузова, молодого идеолога и пропагандиста с Брестчины. У него нет ни театрального, ни музыкального образования, как, впрочем, и экономического. Зато есть твердая карьера управленца – что, видимо, и требует официальный политический момент. Вячеслав Гарбузов по базовому образованию историк-политолог, в 1998-м окончил Брестский университет. Еще на студенческой скамье он влился в аппарат БРСМ. Затем были годы службы в Брестском облисполкоме, в управлении культуры…

Естественно, Вячеслав Гарбузов прошел политическую подготовку в Академии управления при президенте Республики Беларусь. А в 2019 году, уже будучи директором Брестского драматического театра, переподготовку по профилю – в университете культуры и искусств. Возможно, он даже посещал Большой театр… Возможно, даже сможет теперь высидеть три с половиной часа на опере «Фауст». Возможно, знает творческий путь художественного руководителя театра всемирно известного хореографа Валентина Николаевича Елизарьева. Кстати, министерство не сочло нужным посоветоваться с мэтром перед назначением в коллектив нового директора. Как-будто послали очередного начальника в ЖЭС – авось сработаются… Конечно, будем надеяться. Елизарьев – мудрый, опытный, гениальный. Гарбузову у такого человека учиться, учиться и еще раз учиться.

Сейчас для нового генерального директора Большого театра главное что? Преданность Лукашенко, а вовсе не прорывы в искусстве. А разницу между партитурой и клавиром, между каватиной и каденцией новому руководителю Большого, может, знать и не обязательно.

И вообще, долог ли век Гарбузова в такой высокой должности? Следующим генеральным директором Большого театра, не исключено, будет назначен руководитель сельской художественной самодеятельности.

Елена МОЛОЧКО.

ЧУЛІ?

# Тры міліцыянты і два ідэолагі:

## стала вядома, хто знайшоў экстрэмізм у кнізе «Беларуская нацыянальная ідэя»

**«Еўрарадыё» атрымала копію заключэння экспертнай камісіі ад 4 сакавіка, якая знайшла экстрэмізм у кнізе «Беларуская нацыянальная ідэя». Кнігу абмяркоўвалі восем экспертаў, трое з якіх – міліцыянты, яшчэ двое маюць дачыненне да ідэалагічнага ўпраўлення Мінскага аблвыканкама.**

У камісію ўвайшлі трое супрацоўнікаў УУС Мінскага аблвыканкама – палкоўнік міліцыі **Мікалай Максімовіч**, першы намеснік начальніка **Віталь Казлоў** і начальнік крыміналістычнага аддзела **Максім Цупа**; двое ідэолагаў з Мінаблвыканкама – **Вольга Топдэмір** і **Ніна Грамузава**, а таксама экс-дырэктар радыёстанцыі «Мінская хвалія» **Тамара Вяцкая**, выкладчык БДМУ **Аляксей Кацічаў** і кіраўнік «Цэнтра глабалізацыі, інтэграцыі і сацыякультурнага супрацоўніцтва» ў Інстытуце філасофіі НАН РБ **Наталля Кутузава.**

Высновы, да якіх прыйшла камісія, займаюць адзін абзац: там проста гаворыцца, што ў кнізе *«устаноўлена наяўнасць прыкмет праявы экстрэмізму»*. Далей пазначаны непасрэдна прыкметы, якія пералічваюцца ў беларускіх законах. Усе яны адносяцца да кнігі ці нейкія канкрэтныя – незразумела.

Як сказала «Еўрарадыё» адна з чальцоў камісіі **Наталля Кутузава**, яна адзіная з васьмі ўдзельнікаў камісіі галасавала супраць прызнання кнігі экстрэмісцкай. Паводле яе меркавання, прыкметы экстрэмізму ў кнізе не былі сфармуляваны на пасяджэнні камісіі. **Тамара Вяцкая** сказала выданню, што аб тым, якія прыкметы экстрэмізму змяшчае ў сабе кніга «Беларуская нацыянальная ідэя», ёй гаварыць не рэкамендавалі, але асабіста ёй кніга *«не падабаецца»*, яна *«разбуральная, жорсткая»* і *«не карысная»*.

Для абмеркавання 600-старонкавага выдання эксперты збіраліся адзін раз. Метад экспертызы, указаны ў заключэнні камісіі, – *«візуальнае даследаванне»*. Тамара Вяцкая кажа, што азнаёмілася са зместам кнігі, але чытала яе *«не ўсю»*, *«па дыяганалі»*.

*«Звычайна кнігі проста праглядаюць. Я ведаю, што кнігу глядзелі, пры мне яе бралі ў рукі, перагортвалі. Аб тым, наколькі ўважліва чыталі, я не магу сказаць. Звычайна на пасяджэнні кожны бярэ кнігу і глядзіць, выказвае сваё меркаванне – ці ёсць там нейкія прыкметы або няма»*, – сказала Наталля Кутузава.

У кнігу «Беларуская нацыянальная ідэя» ўваходзяць 85 гутарак з пісьменнікамі, мастакамі, філасофамі, грамадскімі дзеячамі. Гутаркі выйшлі на «Еўрарадыё» ў праграме «Ідэя Х», якую вядуць **Зміцер Лукашук** і **Максім Гаруноў**. Кніга выйшла з друку ў кастрычніку 2020 года.

Яшчэ адна кніга, у якой эксперты нядаўна знайшлі прыкметы праявы экстрэмізму, – «Беларускі Данбас» журналістаў **Ігара Ільяша і Кацярыны Андрэевай.** Камісіі збіраліся ў розным складзе, але высновы, да якіх яны прыйшлі, паўтараюць адна адну слова ў слова.

ХТО ЁСЦЬ ХТО

Ігар ЛЯШЧЭНЯ, экс-амбасадар Рэспублікі Беларусь у Славакіі:

# «Мой сэнс свабоды – быць у Беларусі і дзейнічаць адкрыта»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Для сям'і наступстваў не было. Калі не лічыць, што жонка ўсё яшчэ не можа ўладкавацца на працу.

**– Што вы здабылі праз актыўнасць?**

– Па-першае, я здабыў, а дакладней, умацаваў сваё добрае імя. Адважуся сказаць, што ў мяне і дагэтуль быў годны імідж. Далей гісторыя ўсіх рассудзіць. Я таксама заслужыў павагу людзей, якія мяне дагэтуль не ведалі. З'явілася шмат знаёмых, мяне пазнаюць, і я адчуваю сімпатыю людзей. Па-другое, і гэта самае галоўнае, я ў камфорце сам з сабой.

На дадзены момант я ўладкаваўся на працу і ў 53 гады асвойваю абсалютна новы від дзейнасці. Прапанову зрабіў зусім незнаёмы чалавек. І гэта ўчынак, на мой погляд.

**– Ці было гэта таго варта?**

– Сёння я разумею, што ў маім рашэнні была заканамернасць. Пасля таго, што адбылося, я не змог бы працаваць у гэтай сістэме. Перафразую Уінстана Чэрчыля: калі паміж ганьбай і адстаўкай я абраў бы толькі ганьбу, то ў выніку атрымаў бы і ганьбу, і адстаўку. Так што ў дадзеным выпадку маё рашэнне было непазбежнае.

**«За мной ніхто, акрамя жонкі, дзяцей, катоў і сабак, ніколі не стаяў»**

**– Што фарміравала вашу ўнутраную свабоду? Назавіце тры галоўныя фактары.**

– Мяне такім сфарміравала ўсё маё жыццё. У свой час з малога беларускага горада Жодзіна я паступіў у МДІМА (Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносін), хоць тады гэтай установы не было ў даведніках. Мы з бацькам ішлі па Маскве і пыталіся ў кожнага сустрэчнага, дзе гэта «МДІМА». Праз галоўны ўваход нас не пусцілі, і тады мы вырашылі, што возьмем будынак «у аблогу», пачалі абыходзіць гэты велічэзны комплекс – і ў выніку нас пусцілі праз увахол рэжымнай ваеннай кафедры. Я быў адзіным на курсе, каго ўзялі ў саюзнае МЗС без маскоўскай прапіскі.

На падзеях майго жыцця з 17 да 27 гадоў – ад паступлення да прыходу ў беларускае МЗС – можна стварыць трылер. Я ведаю, што адчувае чалавек, калі ў не самы спакойны перыяд развіцця блізкаўсходняй дзяржавы ноччу ў яго жывот упіраецца ствол аўтамата. Тады я быў студэнтам. У 1991 годзе я быў гатовы ехаць на пераддыпломную практыку ў амбасаду СССР у Ірак, дзе пачыналася аперацыя «Бура ў пустыні». Я разумеў, што не траплю ў МЗС СССР, калі ўвесь перыяд практыкі буду, нікому не патрэбны, швэндацца па цэнтральным апараце. У выніку мяне накіравалі ў Емен.

Мая кар'ера развівалася насуперак абставінам. Часта даводзілася ісці супраць плыні. У мяне была свая думка. Менавіта ў гэтых умовах ставіў рэкорды: быў самым маладым начальнікам упраўлення, самым маладым пасдом, самым маладым памочнікам Лукашэнкі.

У рамантычны перыяд гісторыі беларускага МЗС было толькі чатыры выпадкі «one man show», калі аднаго чалавека закідвалі за мяжу і ён быў там чалавек-амбасада. Пасля такога вопыту тры чалавекі сышлі з МЗС, а я выжыў і стаў самым маладым амбасадарам. Мяне тады з жонкай, двума малымі дзецьмі і пудзелем закінулі ў Каір: маўляў, хуценька дапамажы аднавіць сяброўства новага беларускага парламента ў Міжпарламенцкай асамблеі (і дапамог-такі), а заадно і амбасаду адкрыеш. Роўна праз суткі па факсе з гатэля я ўжо слаў першую, ад рукі напісаную, справаздачу аб праведзеных сустрэчах.

Усё маё жыццё – форс-мажорныя сітуацыі, у якіх трэба было спадзявацца толькі на сябе. Я ніколі не быў «чыімсьці», хоць часам і хацелася. За мной ніхто, акрамя жонкі, дзяцей, катоў і сабак, ніколі не стаяў.

У мяне заўсёды была павага да сябе і да іншых людзей.

Напэўна, на мой светапогляд паўплывалі бацькі. Яны ў мяне верылі, ва ўсім дапамагалі. Мама – адна з нямногіх у Беларусі лаўрэат прэміі Савета Міністраў СССР у галіне навукі. Бацька каля 30 гадоў быў дырэктарам школы ў Жодзіне, стварыў там музей, які атрымаў статус народнага.

**– Пра што вы цяпер папярэдзілі б самога сябе?**

– Каб мяне не пакідалі мудрасць, разважлівасць, вера ў сябе. І каб я ўмеў абстрагавацца ад прыватных меркаванняў. Я досыць позна стаў публічным чалавекам, таму спачатку блізка да сэрца прымаў выпады ў Сеціве за свае першыя публікацыі з аналізам сітуацыі ў Беларусі. Постфактум лішні раз пераконваюся, што вельмі ў многіх ацэнках меў рацыю.

**«Буду адкрыта працаваць на перамены, пакуль не закрыюцца ўсе магчымасці»**

– Ці баіцеся вы сёння?

– Не. Рэальна страшна было, калі я рабіў заяву. Страшна было вяртацца. Я тады зрабіў хітры ход і ў інтэрв'ю СМІ заявіў на ўсю краіну, што не здзіўлюся, калі на мяжы даведаюся, што я дасведчаны кантрабандыст або вязу некалькі мільёнаў долараў для беларускай апазіцыі. Як кажуць у анекдотах, таварыш маёр пачуў, і мяжу я перасек бясшумна. Нервы скончыліся, калі я ў поўнай адпаведнасці з лістом МЗС прыйшоў у міністэрства звальняцца, і перапалоханая ахова пачала званіць ва ўсе тэлефоны. Гэта было непрыемна.

Сёння мая сіла і мая слабасць у тым, што я ў Беларусі. Гэта мой прынцып – быць тут. А тут мае сэнс быць, калі ты бачны і чутны, адкрыты і празрысты. Таму, напрыклад, я пагадзіўся ўдзельнічаць у ініцыятыве «СХОД», хоць да канца не разумеў, што гэта такое. Некаторыя нават казалі, што гэта задума КДБ, каб узяць на ўлік усіх нязгодных.

Мне імпануе ідэя дыялогавай пляцоўкі, дзе мы можам абменьвацца думкамі аб праблемах і прапаноўваць рашэнні. Для мяне «СХОД» – гэта акенца для легальнай дзейнасці. Гэта інструмент, які дазваляе грамадскай актыўнасці не засохнуць, не змерзнуць у цяперашніх суровых умовах. Ідэальна было б, каб сярод дэлегатаў былі прадстаўнікі ўсіх сіл, той жа «Белай Русі», мы мелі б магчымасць дыскутаваць. Для многіх удзельнікаў гэта важная і карысная грамадска-палітычная школа.

Сваю місію сёння я бачу ў тым, каб падтрымліваць грамадскую актыўнасць, нават у тых прававых рамках, якія становяцца ўсё больш умоўнымі. Гэта не трыгер для перамен, але неабходная ўмова для іх. На гэта была накіравана і ляшчэ ю не спісана ў архіў мая ідэя шырокага грамадскага руху «Я – грамадзянін».

Я не ведаю, ці застануцца магчымасці для такой дзейнасці, калі ўступяць у сілу законы, якія парламент абмяркоўвае ў красавіку. Але пакуль яны ёсць, пакуль усё не закрылася, я буду дзейнічаць.

*(svaboda.org)*

СЛЫШАЛИ?

# Делегаты «СХОДа» обратились с Открытым письмом к правительству. Какой ответ получили?

*Недавно делегаты независимой интернет-площадки **«СХОД»** обратились к руководству Совета министров Республики Беларусь. Они выразили обеспокоенность недостаточностью мер, которые предпринимает государство в связи с распространением COVID-19.*

*«Мы не можем оставаться равнодушными в этой ситуации,* – говорилось в документе. – *Считаем своим долгом заявить, что ни в начале пандемии, ни сейчас Правительством страны не предложено какой-либо вызывающей доверия со стороны общества стратегии по сдерживанию распространения эпидемии.*

*Опыт государств, успешно борющихся с COVID-19, показывает, что можно избежать значительных потерь в экономике, сохранив при этом на должном уровне здоровье нации.*

*Фактическое игнорирование государственными органами этой проблемы, на наш взгляд, может привести к значительному количеству потерянных человеческих жизней в результате третьей волны распространения вируса среди населения республики».*

В целях предотвращения негативных последствий третьей волны COVID-19 делегаты интернет-площадки предложили осуществить в стране следующие мероприятия (*даем полностью без изменений. –* ***Прим.ред.***):

*«1.Полное, достоверное и транспарентное информирование населения о заболеваемости и смертности от COVID-19 с разбивкой информации по регионам.*

*2.Введение обязательного масочного режима в общественных местах с определением мер воздействия на лиц, нарушающих указанный режим.*

*3.Введение ограниченного локдауна на всей территории страны (либо в отдельных регионах) – запрет на проведение массовых мероприятий, которые проводятся в закрытых помещениях. Максимальный перевод учебных заведений на дистанционное обучение.*

*4.Обеспечение бесплатных и доступных тестов на антитела (IgM и IgG) к COVID-19 для всех желающих.*

*5.Обеспечение безопасными прививками всех желающих граждан республики.*

*6.Введение моратория на арест медицинских работников за административное правонарушение на период эпидемиологических мероприятий. Каждый медик в стране на счету, к административным нарушителям достаточно применения мер материального воздействия.*

*7.Отмена арендной платы для юридических лиц и индивидуальных предпринимателей, вынужденных простаивать и закрываться в период самоизоляции граждан.*

*8.Финансовая помощь государства населению и пострадавшему бизнесу.*

*9.Отмена необоснованного запрета на выезд граждан из страны. Взамен чего ввести режим медицинского контроля всех въезжающих в страну граждан с применением передового зарубежного опыта».*

Как видим, общественность поставила перед правительством серьезные вопросы. И вот какой ответ делегаты «СХОДа» получили. Не от премьера, не от его замов, а от некоторых ведомств.

Заместитель начальника управления охраны правопорядка Министерства внутренних дел **Дмитрий Курьян** так аргументировал отказ на введение моратория на арест медицинских работников:

*«Обращаем внимание, что лица, совершившие административные правонарушения, преступления, равны перед законом и подлежат административной, уголовной ответственности независимо от пола, расы, национальности, языка, происхождения, имущественного и должностного положения, места жительства, отношения к религии, убеждений, принадлежности к общественным объединениям, а также других обстоятельств.*

*Принцип равенства перед законом закреплен в статье 22 Конституции Республики Беларусь и является одним из важнейших принципов правового государства.*

*Ограничение прав и свобод личности допускается только в тех случаях, предусмотренных законом, в интересах национальной безопасности, общественного порядка, защиты нравственности, здоровья населения, прав и свобод других лиц».*

Заместитель министра образования **Александр Кадлубай** на предложение о переводе учреждений образования на дистанционное обучение дал такую мотивировку:

*«При необходимости возможна организация образовательного процесса обучающихся с использованием информационно-коммуникационных технологий полностью или частично (по отдельным учебным предметам, учебным дисциплинам или видам занятий) с учетом типа учреждения образования и возможностей конкретного учреждения образования. Решение принимается руководством учреждения образования».*

Первый заместитель председателя Государственного комитета по имуществу **Петр Бровкин** на предложение отменить арендную плату ответил словами:

*«Возможность компенсации потерь, связанных с непоступлением арендной платы, за счет оборотных налогов не является гарантированной, что грозит срывом ряда государственных программ. Кроме того, арендная плата, направляемая в соответствующий бюджет, составляет основу неналоговой части бюджета...*

*...Кроме того, освобождение от уплаты арендной платы приведет к неравным конкурентным условиям хозяйствования, поскольку пользоваться недвижимым имуществом будут одни, а затраты по его содержанию будут нести другие (его арендодатели)».*

Делегат «СХОДа», который является руководителем группы «COVID-19 и противопандемические мероприятия властей» **Виктор Марков** прокомментировал «Народной Воле» ответы чиновников:

– *Люди чувствуют, что со статистикой их обманывают. Поэтому мы требовали и будем требовать, чтобы общественность знала реальное положение дел.*

*Мы предлагали ввести масочный режим и принять соответствующие меры за его невыполнение. Вы же видели, как было на том же так называемом Всебелорусском собрании. Поразительная способность чиновников жертвовать здоровьем, но держаться за кресло.*

*Во всем мире тесты на антитела делаются бесплатно. У нас нужно заплатить немалые деньги.*

*Но больше всего меня поражает то, что у нас бросают за решетку медиков, которых не хватает в стране. На войне каждый солдат важен, а тут фактически генералов репрессируют.*

*Что касается нашего предложения по отмене арендной платы: если мы социально-ориентированное государство, почему же во время пандемии людям не помогают? В Европе, в США есть выплаты. А у нас только биржа...*

**Виктор Марков** рассказал, что делегаты «СХОДа» планируют делать дальше:

– *Мы будем отправлять письмо в Администрацию президента. Как же так? На самом высоком уровне говорят, что «иногда не до законов», а МВД ссылается на то, что перед законом все равны.*

**Фира РАЗУМОВСКАЯ.**

ПАЛІТКУХНЯ

# Глеб ГЕРМАНЧУК: «Маем ужо больш за 6500 заявак...»

*Прэс-сакратар штаба экс-прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду **Віктара Бабарыкі** распавёў «Народнай Волі» пра тое, на якой стадыі зараз знаходзіцца працэс стварэння новай партыі «Вместе».*

Нагадаем, што 29 сакавіка гэтага года паплечнікі Віктара Бабарыкі, які зараз знаходзіцца ў СІЗА, аб'явілі, што ў Беларусі можа з'явіцца новая партыя «Вместе», якая аб'яднае апазіцыйныя сілы.

– На дадзены момант мы атрымалі ўжо больш за 6500 заявак на ўступленне ў партыю, – кажа **Глеб ГЕРМАНЧУК**. – Зараз праходзіць этап, калі мы знаёмімся з гэтымі людзьмі, каб разумець іх матывы. Апрацавана ўжо каля 1500 заявак.

Як вядома, па законе для правядзення з'езда і стварэння партыі неабходна не менш за тысячу сябраў арганізацыі, таму зараз на гэтым пытанні і сканцэнтраваліся.

**– Нярэдка атрымліваецца, што ў спіс сябраў партыі трапляюць людзі, якія затым адклікаюць свае подпісы і заяўкі...**

– Разумеем гэта, таму зараз і праходзіць сур'ёзная праверка тых, хто жадае ўступіць у партыю. Хачу толькі дадаць, што сацыяльныя слаі ў нас прадстаўлены самыя розныя: і простыя рабочыя, і кіраўнікі фірм, і прадстаўнікі IT-сферы...

**– Што патрэбна для таго, каб падаць заяўку на ўступленне ў партыю «Вместе»?**

– Збор заявак вядзецца праз наш сайт, які лёгка можна знайсці ў інтэрнэце. Трэба запоўніць анкету і такім чынам далучыцца да стварaемай арганізацыі.

**– Якім будзе наступны этап пасля праверкі подпісаў?**

– Трэба актыўна папрацаваць у рэгіёнах. І, натуральна, будзем шліфаваць сваю праграму.

Правесці з'езд і падаць дакументы на рэгістрацыю партыі мы плануем у гэтым годзе.

**Алесь СІВЫ.**

ПАЛІТКУХНЯ

# Шэсць гадоў калоніі для... барабаншчыка

*У судзе Маскоўскага раёна Мінска абвясцілі прысуд па справе палітвязня **Аляксея Санчука**.*

Яго абвінавацілі па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса: чч.1 і 2 арт.342 (арганізацыя, падрыхтоўка дзеянняў, актыўны ўдзел у дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак), ч.3 арт.293 (навучанне ці іншая падрыхтоўка асоб для ўдзелу ў масавых беспарадках) і ч.2 арт.293 (падрыхтоўка да ўдзелу ў масавых беспарадках).




Нагадаем, што ў лістападзе мінулага года ў Мінску на рэпетыцыі сілавікі затрымалі групу барабаншчыкаў, якія восенню сталі адным з сімвалаў пратэстаў. Музыкантаў адміністрацыйна асудзілі за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі пратэсту, але Аляксей пасля 15-сутачнага арышту так і не выйшаў на волю. Супраць яго распачалі крымінальную справу.

Згодна з версіяй абвінавачання, Аляксей Санчук «пад выглядам масавых мерапрыемстваў» у Мінску здзяйсняў дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак: перакрываў праезную частку, аказваў відавочнае непадпарадкаванне супрацоўнікам УУС, выкрыкваў лозунгі, гучна пляскаў у далоні, размахваў бел-чырвона-белым сцягам.

Дзяржабвінаваўца сцвярджаў, што з чэрвеня па 4 лістапада 2020 года Аляксей Санчук браў актыўны ўдзел у масавых беспарадках, купляў піратэхніку, адкрыў рахунак у «Тэхнабанку» для фінансавання пратэстаў.

За блакіраванне дарог 27 верасня, 18 кастрычніка, 4 кастрычніка, 25 кастрычніка, 1 лістапада «Мінсктранс» выставіў яму іск на суму 161.900 рублёў.

Таксама, паводле версіі следства, ён *«арганізаваў супольнасць, дзе навучаў людзей, схіляў асоб да групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак».*

Суддзя **Таццяна Пірожнікава** вынесла Аляксею Санчуку прысуд – шэсць гадоў калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Скажыце, у якой цывілізаванай краіне мог быць вынесены такі вердыкт? Судзяць у нас не тых, хто нахабна сфальсіфікаваў вынікі галасавання на прэзідэнцкіх выбарах, а тых, хто выступіў з пратэстам, хто патрабуе аднаўлення справядлівасці, правядзення любой палітычнай кампаніі дэмакратычна, без парушэнняў заканадаўства.

**Віктар ШПАК.**

АЎКЦЫЁН

## Кошт перамогі

*Медаль сярэбранага прызёра Алімпіяды-2008 па шматбор'і **Андрэя Краўчанкі** купілі за 5100 долараў.*

Нагадаем, што спартсмен, які вядомы сваёй грамадзянскай пазіцыяй, у знак салідарнасці з палітвязнямі абвясціў 10-дзённую галадоўку, а таксама выставіў на аўкцыён свой залаты медаль.

Першапачатковы кошт лота складаў 1000 долараў, але ў выніку медаль быў прададзены ў пяць разоў даражэй.

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

## За суткі – 837 выпадкаў захворвання на каранавірус

*Міністэрства аховы здароўя паведамляе, што за суткі ў краіне зарэгістравалі 837 выпадкаў каранавіруса, а выпісаны 694 чалавекі.*

З пачатку пандэміі зарэгістраваны 372.242 чалавекі са станоўчым тэстам на COVID-19. Выздаравелі 362.806 пацыентаў.

За ўвесь час памёр 2671 чалавек.

За мінулыя суткі зрабілі 7207 тэстаў (за ўвесь час – 6.036.143 тэсты).

Народная Воля http://www.nv-online.info
14 МАЯ 2021 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## І ўлада мае звычай гэткі: даваць фальшывыя даведкі

Украінцы не пусцілі на сваю тэрыторыю аўтобус з Беларусі: ва ўсіх 35 пасажыраў былі фальшывымі даведкі аб тым, што яны не хворыя на кавід. Высветлілася, што гэтыя даведкі падрыхтавала фірма, якая арганізавала экскурсію.

Амаль што кожны ведае, бадай
(Ва ўсякім разе гэта не навіна):
На пераломе – а таму не рай –
Цяпер суседка наша Украіна.
Турыст звычайна ехаць не гатоў
Туды, дзе што ні дзень,
топератрусы.
І тым не менш у Кіеў, Роўна, Львоў
Дарогу не забылі беларусы.
У край для нас спрадвеку не чужы
Аўтобусы імкнуцца, хоць і рэдка.
Вось толькі пасажыру на мяжы
Патрэбна медыцынская даведка,
Што пасажыр не хворы на кавід,
Бо там і так задужа многа хворых –
Не аднаго адправіў у нябыт
Драпежны і няўмольны гэты вораг.
...Паехала чарговая гурма –
Хто па «гарэлку»,
Хто яшчэ й па сала.
Даведак жа такіх у іх няма.
Ды гэта, мабыць, мала хвалявала,
Бо ў фірме, што наладзіла вояж,
Запэўнілі, што будзе шыта-крыта:
– Даведкі пра здароўе – клопат наш,
Праедзем праз мяжу мы, як праз сіта.
І сапраўды: даведак цэлы стос
Даставіў прадстаўнік
тутэйшай фірмы.
Ён гэты стос памежнікам панёс,
Якія строга зыркалі з-за шырмы.
А выскачыў чырвоны, быццам рак,
Апараны гарачаю вадою.
– Якія ў нас праблемы? Што не так? –
Распытваць узяліся грамадою. –
Чаму стаім? Чаму не едзем мы?
Няўжо папасці ў Кіеў немагчыма?
А прадстаўнік чамусьці – як нямы
І толькі тупа лыпае вачыма.
Нарэшце растлумачыў афіцэр,
Сказаўшы на ўкраінскай
«рíднай мове»:
– Мы выкрылі злачынны ваш намер:
Даведкі ў вас фальшывыя, панове!
Падробка дакументаў!
І таму
Пабачыць не далі ні Львоў, ні Кіеў,
Хаця маглі адправіць і ў турму
Ці проста ўсіх пагнаць
дадому кіем...
***
Наш кіраўнік – як доктар Айбаліт,
Ён кажа, што залішняя трывога:
На шчасце, цяжка хворых на кавід
У Беларусі ёсць не надта многа,
А паміраe ўвогуле няшмат –
Паказчык, як у свеце ўсім, не гэткі.
А можа, свету кіраўнік і ўрад
Паказваюць фальшывыя даведкі?..

### Шчасце не купіш?

«Не купіць шчасце
нават каралеўна!» –
Такое часта чуеш у жыцці.
Хто гэтак кажа, пошліну, напэўна,
За скасаванне шлюбу не плаціў...

### Апошняе слова

Для злыдня шлях адзіны – у турму.
Ды нават у забойцы ёсць правы.
Суддзя ў яго пытаецца:
– Чаму
Ад слова адмаўляецеся вы?
– Карысці будзе з гэтага няшмат.
З пустою гаварыльняй – перабор.
Сказаў усё, што трэба, адвакат,
А што не трэба, выдаў пракурор...

### І нашто распранаў?

Засвоіць мужыкам даўно пара:
Бяспечнасць не даводзіць да дабра.
Я ўласны прыклад вам,
сябры, падкіну:
Бяспечна распрануў
адну дзяўчыну
(У маладосці шмат было прыгод);
Яе ўжо апранаю сорак год...

### Сентэнцыя

Цяпер, калі маю дарослых дзяцей,
Сентэнцыя ўбілася ў плеш:
Мужчыны падманваюць
жонак часцей,
А жонкі падманваюць лепш...

НЯЗЛОМНЫЯ

# 105 сутак за кратамі Анастасіі Перавозчыкавай

Як ужо паведамлялася, некалькі дзён таму выйшла на свабоду **Анастасія Перавозчыкава**. Каля Буда-Кашалёўскага ізалятара яе сустракалі маці і сяброўкі, якія адмыслова прыехалі з Гомеля за паўсотні кіламетраў. У гэты райцэнтр Насцю перавялі яшчэ 9 сакавіка з ізалятара УУС Гомельскага аблвыканкама, дзе ўжо бракавала месца для асуджаных на «суткі» за ўдзел у пратэстных акцыях супраць фальсіфікацыі выбараў. Да пераводу ў Буда-Кашалёва Перавозчыкава адседзела 45 сутак у Гомелі.

– Знайшлі сем фотаздымкаў на нейкіх сайтах ці чатах і сцвярджалі, што нібыта там ёсць і я, хоць разглядзець, хто на тых здымках, немагчыма. За гэта і судзілі сем разоў, давалі кожны раз па 15 сутак. Гэта жаданне запалохаць, ціснуць на людзей, якія праяўляюць грамадзянскую актыўнасць, – лічыць Анастасія Перавозчыкава.

– Наш крэмень, наша гераіня, – кажуць пра яе сяброўкі.

Наколькі вядома, на пачатку года міліцыя збілася з ног, шукаючы пратэстны сцяг Навабеліцы. Макет сцяга распрацавала Анастасія. Вобыскі аператыўнікі рабілі ў жанчын дома, а таксама ў 89-гадовага Насціната дзядулі, узнагароджанага медалём «За самаадданую працу ў Вялікай Айчыннай вайне». Забралі ўсю тэхніку.

Ад Насці міліцыя патрабавала выдаць сцяг Навабеліцкага раёна, а яна не ведала, дзе той сцяг і хто побач з ім фатаграфаваўся. Міліцыянеры злаваліся і накідвалі мужнай дзяўчыне чарговыя «суткі». Мабыць, ім больш не было на каго вешаць «партызанку», бо ў некаторых дзеці, а іншыя наогул з'ехалі за мяжу.

Паводле слоў маці Анастасіі Алены Леанідаўны, у аддзеле аховы правапарадку Навабеліцкага РАУС ёсць супрацоўнік **Дзмітрый Кротаў**. Дык ён адкрытым тэкстам казаў жанчыне, што яе дачка паб'е «рэкорд» па сутках за кратамі. Маўляў, яна можа быць пакарана і сем, і дзесяць разоў. Адміністрацыйныя пратаколы звычайна афармляў яшчэ адзін **Дзмітрый** – участковы міліцыянер **Прахарэнка**.

Суды ў дачыненні да Перавозчыкавай праходзілі паводле міліцэйскіх пратаколаў пад завесай нейкай невераговднай сакрэтнасці. Праз адваката, кажа Анастасія, удалося аспрэчыць толькі два арышты, але абласны суд пакінуў абедзве пастановы Навабеліцкага райсуда без змяненняў.

Умовы ўтрымання ў ізалятары Буда-Кашалёўскага РАУС у красавіку пагоршыліся.

– Адбіралі матрасы, коўдры, падушкі. Абмяжоўвалі магчымасць карыстацца кніжкамі. Не лічу сябе нейкім парушальнікам ці заўзятай актывісткай. Але калі нават чалавек у чымсьці і вінаваты, то да яго ўсё роўна варта ставіцца па-чалавечы. Моцную падтрымку аказвалі людзі праз лісты. Пісалі з Гомеля, Мінска. На волі гэта не так успрымаецца, а ў ізаляцыі вельмі важна, – дадае Анастасія.

Перавозчыкава скончыла Гомельскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт, патрэбныя гады пасля вучобы адпрацавала ў Светлагорску судмедэкспертам. Вярнулася ў Гомель.

Першы раз Анастасію пакаралі паводле «народнага артыкула» 23.34 КаАП за нейкія здымкі на фоне бел-чырвона-белага сцяга, імаверна, і за фота з плакатам «Вярніў Кандрусевіча? Вярні выбары!». А далей кваліфікаванага спецыяліста міліцыянеры паставілі на канвеер, ідавочна, каб рапартаваць пра кіпучую дзейнасць у барацьбе з іншадумствам.

**Анатоль ЛІПСКІ.**
*Гомель.*





**Анастасія Перавозчыкава ў крузе сяброўак, крайняя справа – Анастасія з маці.**

ПРАТЭСТ

# Сын акадэміка Лукашанца пакінуў Беларусь пасля хвалі рэпрэсій

*Даследчык Антарктыды біёлаг **Зміцер Лукашанец** пасля акцый пратэсту перабраўся ў Літву. У суседняй краіне ён атрымаў прытулак і знайшоў новае месца працы – у Інстытуце марскіх даследаванняў пры Клайпедскім дзяржаўным універсітэце.*

У інтэрв'ю *delfi.lt* навуковец патлумачыў, што апошнім часам у Беларусі навукай займацца стала немагчыма. Кіраўніцтва Акадэміі навук заяўляе, што цалкам падтрымлівае дзеянні Аляксандра Лукашэнкі і сілавікоў, а тым, хто сутыкнуўся з гвалтам, – маўляў, так і трэба, самі заслужылі.

У такіх рэпрэсіўных умовах Лукашанец працаваць не захацеў і пакінуў пасаду намесніка дырэктара Навукова-практычнага цэнтра НАН Беларусі па біярэсурсах. На гэтай пасадзе ён працаваў апошнія паўтара года.

Навуковец займаўся даследаваннем Антарктыды, удзельнічаў у экспедыцыях на гэты мацярык. *«Антарктычная праграма ўсё ж з'яўляецца іміджавым праектам і звязана з грамадскім жыццём, таму замкнуцца ў сабе, адседзецца, засяродзіцца на кабінетнай або навуковай працы, дзе цябе амаль ніхто не бачыць і не ведае, і зрабіць выгляд, што ты нічога не заўважыў і наогул не пры справах, не атрымалася б. Гэта супярэчыць маім прынцыпам і перакананням»*, – прызнаецца Зміцер Лукашанец.

Бацькі Змітра таксама працавалі ў навуковай сферы. Бацька Аляксандр Аляксандравіч Лукашанец – мовазнаўца, акадэмік.

*«Пасля масавых пратэстаў і хвалі гвалту ён таксама не змог заплюшчыць вочы на тое, што адбываецца, і выказаў сваё незадавальненне разам з іншымі навукоўцамі ў калектыўным звароце. За гэта ён паплаціўся пасадай... Нават ішла гаворка пра тое, каб пазбавіць яго звання акадэміка. Было сказана, што ён акадэмік з антыдзяржаўнай пазіцыяй, прычым усё гэта мусолілася прылюдна»*, – распавядае Зміцер.

Маці Змітра працавала ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, дзе праходзілі шматлікія акцыі супраць гвалту з боку сілавікоў. Удзел у іх узялі як студэнты, так і выкладчыкі. *«Гэта быў не проста парыў душы – у першую чаргу ён быў звязаны з тым, што амапаўцы ўрываліся і затрымлівалі студэнтаў проста ў будынку. Многія выкладчыкі, зразумела, не змаглі на гэта спакойна глядзець. Яны выказалі сваю пазіцыю – услед за гэтым пракаціліся хваля звальненняў. Ад іх пазбавіліся вельмі хутка».*

*«Мая мама – прафесар кафедры агульнага мовазнаўства. Яна не стала чакаць і ўступаць у дыялог з начальствам – звольнілася сама. Сказала, што не можа здраджваць свайму сумленню і гонару, хоць многія змірыліся і прамаўчалі»*, – заўважае Лукашанец-малодшы.

Вось прыклад прынцыповасці і сумленнасці людзей, якія сапраўды з'яўляюцца гонарам Беларусі.

*(nn.by)*



Акадэмік Аляксандр Аляксандравіч Лукашанец.



Прафесар Алена Глебаўна Лукашанец.



Зміцер Лукашанец.

